

Магілеўскі

# ВЫБАР

№ 1 (27)
Ліпень
2014 г.

Абласная Дэмакратычная Трыбуна

# ЛІНІЯ ФРОНТУ

## Аб паспяховасці “мадэрнізацыі” ў асобна ўзятай “Народнай Рэспубліцы Дразды”



У апошнія два месяцы 2014 года ў вышэйшых эшалонах беларускіх уладных структур памаленьку сталі заціхаць размовы аб ходзе працэсаў мадэрнізацыі прадпрыемстваў розных галін вытворчасці і “разрульванню” праблемаў у эканоміцы нашай краны. А з надыходам лета і набліжэннем сезона адпачынкаў для чынавенства пытанні мадэрнізацыі прадпрыемстваў і рэфармавання эканомікі адышлі на другі план.

За 2013 і пачатак 2014 г. Аляксандр Лукашэнка разам са сваімі паплечнікамі паспрабаваў разабрацца з праблемамі на прадпрыемствах дрэваапрацоўкі, у будаўнічым комплексе, а таксама ў ЖКГ, сельскай гаспадарцы.

Найбольш эфектна, загадкава і нечакана завяршылася “разрульванне” праблемаў у пытаннях мадэрнізацыі прадпрыемстваў дрэваапрацоўкі. Крыху больш чым праз месяц пасля наведвання Барысава кіраўніком краіны, на ААТ “Барысаўдрэў” у ноч з 17 на 18 снежня 2013 года адбыўся пажар. А пажар прыпыніў і ўсялякія размовы на гэтую тэму. Да астатніх прадпрыемстваў дадзенай галіны ўжо, як кажуць, рукі не дайшлі.

Завяршылася чарговым “пшыкам” і дзейнасць працоўнай групы па вывучэнню праблемных пытанняў у жыллёва-камунальнай гаспадарцы і выпрацоўцы рашэнняў, накіраваных на паляпшэнне спраў у галіне. Дадзеную камісію, створаную распараджэннем кіраўніка дзяржавы ад 4 лютага 2014 г., узначальваў старшыня КДК Якабсон.

І зусім бясслаўна закончылася дзейнасць працоўнай групы, створанай гэтым жа распараджэннем, пад кіраўніцтвам прэм’ер-міністра Мясніковіча для рашэння праблемных пытанняў у аграпрамысловым комплексе. У склад групы ўваходзілі 26 чалавек, у тым ліку старшыня прэзідыуму НАН, намеснік упраўляючага справамі прэзідэнта, старшыні Белстату, Дзяржмаёмасці, Мінскага аблвыканкама; міністр сельскай гаспадаркі разам са сваім намеснікам, намеснікі міністраў эканомікі, фінансаў, МУС, па падатках; генеральныя дырэктары аграрных навукова-практычных цэнтраў, прадстаўнікі банкаў, вядомыя кіраўнікі і спецыялісты сельгаспрадпрыемстваў…

За час працы дадзенай групы значна ўзраслі кошты на шматлікія прадукты харчавання, а некаторыя мясныя вырабы зусім зніклі з паліц магазінаў. А аб прагнозных паказчыках па заробках працаўнікоў сяла за кошт мадэрнізацыі сельгаспрадпрыемстваў да 750 долараў у месяц і планах выхаду ў 2015 г. на гадавы збор ураджаю зернявых культур у аб’ёме 12 млн. тон ужо нават ніхто з чынавенства і не заікаецца.

Спачыла ў нябыт і Рэспубліканская камісія па вывучэнню сітуацыі ў будаўнічым комплексе пад началам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта…

А як прыгожа ў свой час гучалі завярэнні кіраўніцтва краіны, што ў 2015 годзе кошт будаўніцтва 1 кв.м жылля будзе раўняцца аднаму сярэдняму месячнаму заробку па краіне.

Праўда, як эксперымент, у Беларусі ёсць асобна ўзятыя месцы, дзе праз мадэрнізацыя будаўнічай галіны ў сферы будаўніцтва жылля ўжо ўдалося дасягнуць значных поспехаў, і кошт 1 кв.м раўняецца сярэднемесячнаму заробку, а то і ніжэй. Адным з такіх месцаў з’яўляецца катэджны пасёлак каля вадасховішча Дразды ў Мінску. Тут атрымалі ўчасткі пад будаўніцтва і пабудавалі або яшчэ будуюцца самыя “нуждающиеся” грамадзяне нашай краіны.

Падобныя “Дразды” існуюць ва ўсіх абласных цэнтрах Беларусі і іншых буйных гарадах.

Ды як не будавацца “нуждающимся” грамадзянам, калі дзяржава толькі за гэтую пяцігодку ўклала ў “мадэрнізацыю” 30 млрд. долараў. А за 20-годдзе, як заявіў Лукашэнка журналістам 10 чэрвеня 2014 г. у час наведвання Сербіі, ад 120 да 130 млрд. долараў.

Будзем спадзявацца, што ў хуткім часе “драздоўскі” досвед будзе распаўсюджаны па ўсёй краіне, і астатнія грамадзяне, што дзясяткамі год стаяць у чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоваў, атрымаюць такую ж магчымасць.

***Рыгор КАСТУСЁЎ,***
намеснік старшыні Партыі “БНФ”.

# А ў адказ - цішыня...

**_Бялыніцкі раён: улады па-ранейшаму не даюць ніякай афіцыйнай інфармацыі наконт выпадкаў захворванняў свінняў_**

Многія жыхары Бялыніцкага раёна ўсхваляваныя шматлікімі чуткамі пра тое, што ў раёне быццам бы былі зафіксаваныя выпадкі падзяжу свінняў ад інфекцыйнай хваробы – афрыканскай чумы свінняў. Мясцовыя ўлады ніяк не каментуюць гэтыя чуткі, адмаўляючыся даваць хоць нейкую канкрэтную інфармацыю занепакоеным вяскоўцам.

За апошнія тыдні выпадкі падзяжу свінняў ад невядомай хваробы былі зафіксаваныя ў аграгарадках Цяхцін і Вялікая Машчаніца, а таксама і ў вёсцы Лебедзянка Бялыніцкага раёна. Ва ўсіх такіх выпадках на месца здарэнняў выязджалі спецыялісты Бялыніцкай райветсанцыі, якія закопвалі загінуўшую жывёлу і праводзілі маштабную дэзінфекцыю. Пры гэтым ветэрынарныя спецыялісты адмаўляліся даваць хоць нейкую інфармацыю наконт хваробы, ад якой загінулі свінні, спасылаючыся на тое, што гэта ім быццам бы забараніла рабіць непасрэднае кіраўніцтва.

Між тым, некаторыя мясцовыя жыхары ўжо атрымалі пісьмовыя папярэджанні аб тым, што трымаць свінняў немэтазгодна ў сувязі з пагрозай захворвання на афрыканскую чуму.

У прыватнасці, такія папярэджанні за подпісам памочніка пракурора Бялыніцкага раёна атрымалі некалькі жыхароў аграгарадка Цяхцін, у якім раней мелі месца выпадкі падзяжу свінняў ад невядомай хваробы, пасля чаго ветэрынарныя спецыялісты выконвалі комплекс мерапрыемстваў па дэзінфекцыі.

*(Заканчэнне на с.3)*

# Приватизация жилья:

## как власти "имеют" своих сограждан

Сотни, если не тысячи, жителей нашего региона занялись приватизацией своих домов и квартир. Поводом для такого коллективного порыва по разгосударствлению жилфонда стал указ президента: с 1 июля 2016 года неприватизированное жилье станет арендным. И родное белорусское государство, воспользовавшись тягой своих граждан заиметь во владение собственный угол, «отымело» их по полной программе.

Ну а как ещё можно назвать действия славных чиновников из Белыничского, Круглянского и Шкловского райисполкомов, которые устанавливают на приватизируемое жильё просто космические цены? После их «независимой» оценки выходит, что двадцатилетняя квартира или дом в Круглом или Большой Мощанице стоит дороже, чем новостройка под Минском. При этом зажравшиеся «слуги народа», давно обеспечившие благоустроенным жильём собственных деток и внучат, доброжелательно советуют своим простым согражданам платить и не рыпаться, - мол, инфляция всё равно съест большую часть причитающейся к оплате суммы. Честно говоря, меня эти их советы просто прикалывают – такая вот вера со стороны чиновников в экономическую эффективность «цветущего» государства, которым они управляют. В братском им Китае да за такие слова их давно бы к стенке поставили…

Ко мне лично обращается довольно много людей с просьбой ответить на вопрос - по каким же принципам осуществляется приватизация жилья в нашем регионе, кто и каким образом определяет его стоимость.

Кто и по какой формуле должен определять стоимость объектов приватизации, прописано в постановлении Совмина. За




основу берется балансовая стоимость дома по документам собственника. И вариантов, почему в свое время эта стоимость оказалась выше среднего, очень много. На дом, построенный первым, могли лечь расходы по инженерным сетям. Например, в доме в Костюковичах цена за квадратный метр вылилась в Br12 млн. Это дороже оценки БТИ в 6 раз! Дело в том, что дорогостоящая реконструкция бывшей поликлиники в жилом доме в итоге стала "золотой" для желающих приватизировать квартиры.

Даже сами наши славные чиновники зачастую не знают, как разрешить проблему, которую они же и создали. Для примера, приведу целый ряд мнений, которые были высказаны ими на телеканале ОНТ.

Олег Коробан, заместитель начальника управления КГК Могилевской области: *"Если бы изначально была определена стоимость метра квадратного для приватизируемого жилья и она потом бы дифференцировалась в зависимости от износа и так далее, то у людей не возникало бы вопросов".*

Вадим Тачкин, директор консультационной компании в сфере недвижимости: *"На первоначальном этапе пока не отработана система, структура (ЖКХ) старается продать повыгоднее, хотя на самом деле надо учитывать социальный аспект и слово "выгода" здесь неуме-*





*стно. Здесь все-таки надо апеллировать таким понятием, как оформление в собственность ранее занимаемых помещений. Люди их не покупают, а оформляют в собственность то, чем они пользуются, и расходы, которые они несут, и фактически меняют статус, переходя из нанимателей в собственников, полезны государству".*

В Министерстве жилищно-коммунального хозяйства на подобные обращения в последнее время отвечают регулярно. Разъясняют: рассчитывать цену метров ведомство не уполномочено, за это отвечают местные исполкомы.

Стоимость приватизируемого жилья рассчитывают по одной и той же формуле уже 15 лет. В основе – балансовая стоимость, умноженная на индексы, как у строителей нового жилья. Также учитывают процент износа, этажность и даже расположение конкретного дома. Отсюда и такое отличие от расчетов БТИ, которые учитывают цены на недвижимость в конкретном населённом пункте.

Константин Куликов, консультант управления жилищного хозяйства Министерства жилищно-коммунального хозяйства Беларуси: *"Законодательство не предусматривает возможности снижения или повышения цены в зависимости от того, что здесь дешево, здесь дорого. Надо смотреть изначально документы, в какие денежные средства обошлось государству строительство данного дома".*

То есть, уважаемые читатели, многие из чиновников хорошо понимают, что старая квартира в Белыничах не может стоить дороже новой в Минске. Но деньги в бюджет родной страны требуются, поэтому на людей им, собственно, начхать - лупят цены по балансовой стоимости, что в агрогородке, что в областном центре. Про то, сколько затрат «на бумаге» вбухивали в строительство жилья в деревнях наши славные строители, и сколько за счёт сельчан было «отмыто» денег для наших мудрых руководителей и их деток, вы лучше меня знаете. Хотите знать лучше – расспросите своих знакомых тружеников строительных организаций нашего региона. Они вам столько интересного расскажут…

Ну, а для того, чтобы иметь возможность оспорить ту цену, которую вам насчитали «слуги народа» из райисполкома, обязательно проведите независимую оценку стоимости своего жилья – например, с помощью тех же специалистов БТИ. Славные чиновники будут рассказывать вам сказки о том, что, мол, такую оценку проводить не стоит, всё равно она не имеет силы, и т. д., и т. п. Во многом они, конечно, правы, однако, имея на руках независимую оценку стоимости приватизируемого жилья, вы сможете аргументированно отстаивать свою позицию в суде или в вышестоящих инстанциях, куда вам всё равно придётся обращаться.

**Иван БОРИСОВ.**

P.S. На конец 2013 года в Беларуси насчитывалось 392 тыс. неприватизированных квартир, или 14% от общего количества жилья. В Могилевской области неприватизированным остается порядка 20% жилфонда.

# А ў адказ - цішыня...

*( Заканчэнне. Пачатак на с. 2 )*

Людзі запатрабавалі тлумачэнняў ад ветэрынараў - ад якой жа хваробы загінулі жывёлы. Аднак нейкага канкрэтнага адказу атрымаць так і не здолелі. Некаторыя са спецыялістаў казалі, што меў месца выпадак падзяжу свінняў ад звычайнай інфекцыі, іншыя сцвярджалі, што жывёлы загінулі ад простай чумы свінняў.

У аграгарадку Вялікая Машчаніца, дзе таксама меў месца выпадак падзяжу свінняў ад невядомай хваробы, улады перапісалі ўсе гаспадаркі мясцовых жыхароў, якія ўтрымліваюць гэту жывёлу. Таксама на мінулым тыдні на машчаніцкіх крамах з'явіліся абвесткі пра тое, што ў мэтах прафілактыкі АЧС у будынку Машчаніцкага сельвыканкама можна атрымаць мікрацыд для прыгатавання дэзраствора.

Жыхары Бялыніччыны ўстрывожаны тым, што яны так і не здолелі атрымаць нейкай дакладнай інфармацыі наконт захворванняў свінняў. Шмат хто ўпэўнены, што мясцовыя ўлады спецыяльна прыхоўваюць вы-



падкі захворванняў жывёлаў афрыканскай чумой, каб інфармацыя не набыла шырокі розгалас у краіне. Вяскоўцы трымаюць свінняў, каб мець магчымасць выжыць у складаных умовах. Заробкі ў большасці сельгаспрадпрыемстваў Бялыніцкага раёна пакідаюць жадаць лепшага - іх не хапае нават на самае неабходнае. Зараз з-за адсутнасці дакладнай інфармацыі многія з іх пачалі прыразаць нават маламаважкіх свінняў, каб не згубіць іх наогул – маўляў, так неафіцыйна рэкамендуюць ветэрынарныя спецыялісты.

З пункту гледжання грамадскіх актывістаў Бялыніцкага раёна, мясцовыя ўлады сваімі безадказнымі дзеяннямі па прыхоўванні дакладнай інфармацыі толькі ствараюць падставы для разнастайных чутак і панікі сярод насельніцтва.

У Бялыніцкім раёне ўсё пагалоўе свіней у гаспадарках і ў фермераў было ліквідавана яшчэ ў мінулым годзе, і свінагадоўляй зараз займаюцца толькі прыватнікі. Між тым, у суседніх Шклоўскім, Магілёўскім і Бярэзінскім раёнах дзейнічаюць буйныя свінагадоўчыя комплексы.

**Сяргей СЕМЯНОВІЧ.**

# Региональная тактика преодоления кризисных явлений

Финансовые проблемы белорусских регионов во многом порождены их ориентированностью на единый народно-хозяйственный комплекс, что не позволяет локально проводить стратегию либерализации и реструктурирования экономики. Проведение жесткой монетарной политики на фоне осуществления отдельных попыток реальной приватизации в условиях экономического кризиса не способствует проявлению функции саморегулирования рынка и на первый план выдвигает проблему реализации запасов готовой продукции.

В то же время мировой кризис требует находить адекватные компенсаторы и механизмы обеспечения устойчивости экономики. Финансы, как универсальный фактор стабилизации, в результате возложения на них завышенных функций перестали быть средством движения экономики и превратились в мировом масштабе в одну из проблемных составляющих, провоцирующих на фоне неустойчивости финансовых рынков рецессию глобальных масштабов.

В свою очередь наукоемкие сектора экономики не претерпевают таких стрессов, как финансовые институты, что предопределяет экономический курс на инновационно-структурную модернизацию экономики, на активизацию социальных факторов в обеспечении большей динамичности развития общества. Влияние мирового кризиса наиболее заметно отражается на внешнеэкономической деятельности предприятий, поэтому инновационный выбор в экономической политике требует сегодня дополнительной конкретизации. Возможны разные функции осуществления инновационных траекторий, но главная из них - активная государственная поддержка модернизации базовых отраслей. Дальнейшее развитие должна получить стратегия экономического рывка – модернизация экономики с опорой на технологические наработки развитых стран и транснациональных корпораций, что обеспечит значительную экономию времени и средств.



Один из важнейших посылов состояния мировой экономики в том, что экономическая стратегия развития регионов не должна базироваться только на крупномасштабном производстве. Но технологические особенности и производственные мощности крупных предприятий вполне могут создавать малые по объему импортозамещающие производства и формировать новые рыночные ниши для собственных товаропроизводителей. Гибкие, маневренные, чутко реагирующие на спрос малые предприятия, обладающие низкой капиталоемкостью и высокой производительностью в краткие сроки могут освоить экономические ниши, которые пока недоступны крупным производителям, но успешно эксплуатируются иностранными поставщиками продукции.

Мировой кризис способствует формированию собственной промышленной политики на основе диагностики региональных и мирового рынков, поэтому в управлении экономикой надо исходить из полного, а не урезанного спектра форм и методов воздействия на регулируемые процессы. Характерной особенностью перехода к рыночной экономике является создание одинаковых экономических условий для всех видов хозяйствования. Частные фирмы должны стать подрядчиками более крупных предприятий, обеспечивая их комплектующими и деталями, выполняя для заказчиков опытно-конструкторские работы



и отдельные технологические операции. В ближайшие сроки необходимо обеспечить равный доступ всем субъектам к участию в государственных тендерах по оказанию услуг и по поставкам товаров в рамках госзаказа.

Эффективность деятельности малых предприятий во многом связана с включением их в процессы глобализации, и местной власти нужно проявить инициативу в разрешении этой проблемы. Ведь программа импортозамещения в прежнем формате, когда главной целью ее реализации ставилось сохранение рабочих мест, свою задачу выполнила. Дальнейшее реальное продвижение этой программы может привести к снижению конкурентоспособности и самоизоляции отечественной экономики, что еще в большей степени усугубит финансовые проблемы государства.

Мониторинг внутреннего рынка позволяет выявить рыночные ниши, способные активировать внутреннее потребление и стимулировать внутренний сбыт. Каждый регион должен реализовать имеющиеся возможности, которые по различным причинам выпадают из поля деятельности отечественных товаропроизводителей. Как правило, это слишком узкие сегменты рынка, чтобы обеспечить достаточный объем прибыли, но они имеют важную характерную особенность – небольшую привлекательность для конкурентов. Реструктуризация промышленности в данном ракурсе – это процесс комплексной адаптации продуктивных сил ее отраслей к закономерностям

функционирования рыночного хозяйства, который приводит к росту эффективности и соответствия производства внутреннему потреблению. И стратегия диверсификации через концентрацию производства закономерно дополняет существующий ассортимент новой продукцией без дополнительных затрат на «захват» рынка.

Особое внимание необходимо уделить производству в Республике Беларусь запасных частей и аксессуаров к иномаркам. Этот рынок практически отдан китайским и российским производителям, которые поставляют на региональные рынки товары на все марки автомобилей. В то же время практически любой металлургический завод Республики Беларусь имеет возможности наладить аналогичное производство.

Имеет перспективу производство автомобильных масел, смазок и различных присадок для двигателей по западным технологиям, тем более, что подобное производство с успехом уже освоено российскими и украинскими производителями, которые являются основными поставщиками данной продукции на белорусские региональные рынки.

Крупным предприятиям необходимо определить круг видов деятельности, какие остаются в пределах предприятия, а какие начинают исполняться извне в форме трансакций с другими, в первую очередь, малыми предприятиями. Это может быть в реальности сделано на базе разумного сочетания политики импорта технологий из-за рубежа с собственными научно-инновационными программами на обновление производственного аппарата и выпускаемой продукции. Активная адаптация кратковременного характера через эластичность технологий позволит белорусским предприятиям более эффективно функционировать в рыночных условиях.

Темпы экономического развития региона во многом зависят от инвестиционной деятельности,но объемы капитальных вложений не всегда играют определяющую роль. Государственный сектор должен стать базой формирования смешанной экономики. На имеющихся площадях государственных предприятий, используя, в том числе, и отходы производства, можно более эффективно эксплуатировать имеющиеся ресурсы. Предоставление в аренду заводских площадей частным фирмам позволит преобразовать маркетинговую концепцию стратегического позиционирования предприятия и реально задействовать движущие силы роста через создание благоприятной деловой среды для развития малого бизнеса.



*Пётр МИГУРСКИЙ,*
кандидат экономических наук, доцент.

# Перамога

## КУП “Чэрыкаўскае ПМК-280” вярнула грошы выдаўцу газеты “Вольны горад”

***Выдавец газеты “Вольны горад” Уладзімір Кудраўцаў 14 ліпеня атрымаў грашовы перавод ад КУП “Чэрыкаўскае ПМК-280”. Такім чынам адміністрацыя ПМК вярнула журналісту 940 000 рублёў, якія раней былі спагнаныя згодна рашэння суда Крычаўскага раёна ад 10 верасня 2013 г. на карысць Чэрыкаўскай ПМК на пакрыццё судовых выдаткаў і аплату паслуг адваката.***

Гэта рашэнне суда Крычаўскага раёна было адменена 4 чэрвеня 2014 года па наноў адкрытых акалічнасцях суддзёй суда Крычаўскага раёна Антанінай Качанавай, якая і пастанавіла ў сувязі з гэтым вярнуць грошы Уладзіміру Кудраўцаву.

Нагадаем, што 17 чэрвеня 2013 года суддзя суда Крычаўскага раёна Аляксандр Курылін вынес рашэнне па пазове аб абароне дзелавой рэпутацыі з боку КУП “Чэрыкаўскае ПМК № 280” супраць незалежнай газеты “Вольны горад”. Суд прызнаў распаўсюджаныя ў газеце “Вольны горад” (№ 4 ад 3 лютага 2013 года) у артыкуле “Прыгонныя” звесткі адносна КУП “Чэрыкаўскае ПМК-280” не адпавядаючымі рэчаіснасці і абавязаў газету “Вольны горад” апублікаваць абвяржэнне.

Пасля гэтага 10 верасня адбылося пасяджэнне суда Крычаўскага раёна, на якім суддзя Антаніна Качанава задаволіла чарговы пазоў КУП “Чэрыкаўскае ПМК-280” і пастанавіла спагнаць з журналістаў “Вольнага горада” грошы ў памеры 945 000 рублёў на карысць ПМК на пакрыццё судовых выдаткаў і аплату паслуг адваката.


КРЫЧАЎСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА
Вольны горад
штотыдневік
7
ВАША ГАЗЕТА
ВЫДАЕЦЦА з 1998 года

27 снежня 2013 года прэзідыум Магілёўскага абласнога суда прыняў рашэнне адмяніць рашэнне суда Крычаўскага раёна ад 17 чэрвеня 2013 г., што дазволіла Уладзіміру Кудраўцаву звярнуцца ў суд з пазовай, каб яму вярнулі 945 000 рублёў, якія былі спагнаныя на карысць КУП “Чэрыкаўскае ПМК-280”.

Артыкул “Прыгонныя” быў напісаны пасля тэлефанавання ў рэдакцыю “Вольнага горада” жонкі працаўніка Чэрыкаўскай ПМК №280. Жанчына сцвярджала, што яе муж не можа атрымаць заробак ужо трэці месяц. Журналісты "Вольнага горада" параілі ёй звярнуцца за дапамогай ў Крычаўскую міжраённую інспекцыю па ахове працы.

Адміністрацыя ПМК № 280 убачыла ў артыкуле мэту *“дыскрэдытаваць кіруючае звяно “Чэрыкаўскага ПМК-280” і раённую вертыкаль улады”.*

*Барыс ВЫРВІЧ.*

# Трошкі пра "русскоязычных"...

Прыйшлося апошнім часам некалькі разоў апынуцца ў асяроддзі студэнскай моладзі. Першы раз гэта былі студэнты сельскагаспадарчай акадэміі, якія праходзілі працоўную практыку ў мясцовай гаспадарцы. Як былому выхаванцу гэтай славутай навучальнай установы, мне было вельмі цікава паразмаўляць з прадстаўнікамі сучаснага пакалення будучых майстроў сельскагаспадарчай вытворчасці. Але пачуўшы размову студэнтаў, цікавасць хутка змянілася расчараваннем. Амаль кожны сказ гэтыя маладыя людзі суправаджалі такім “отборным матом”, які ці заўсёды яшчэ давядзецца пачуць у месцах зняволення.

Напачатку меркавалася, што гэта брыткаслоўе вынік сумеснай працы студэнтаў з вясковымі механізатарамі. Але праз пэўны час я звярнуў увагу на тое, як на працоўнай практыцы, будучыя педагогі “выхоўвалі” дзетак дашкольнага ўзросту. І зноў калі-нікалі ў гэтых “выхавальніц” праслізвала “салёная” слоўца. Больш таго, як толькі ў дзяўчат з’яўлялася вольная хвілінка, яны імгненна збіраліся разам і пачыналі карцёжную гульню.

Напэўна такіх выпадкаў зараз можна прывесці шмат. Размаўляючы з выкладчыкамі вышэйшых навучальных устаноў я таксама пачуў і ад іх, што гэта з’ява “амаль норма” сярод сучаснай моладзі.

Гэта жах! Чаму такі заняпад агульна-культурнага ўзроўня моладзі?

Доўгі час у Савецкім Саюзе будавалі “светлую будучыню”,



якая атрымала навуковую назву “камунізм”. Будавалі вельмі складана, з “ошибками” і “перегибами”, адначасова загубіўшы ў выніку гэтых “перегибов” вялікую колькасць народу. Шмат народу







высялялася з родных мясцін і прымусова накіроўвалася ў іншыя рэгіёны. Пры гэтым руйнаваліся шматвяковыя традыцыі, звычаі, парушаўся прынцып пераемнасці. Людзей прымушалі працаваць выключна “дзеля камуністычнай будучыні”, аднолькава сябе паводзіць і апранацца, святкаваць і паміраць. Нават думаць і размаўляць павінны былі ўсе на адной мове. У гэтых умовах разам з парткамамі, прафкамамі і камітэтамі камсамола людзей дзесяцігоддзямі “перавыхоўвалі” - і яны рабіліся насельніцтвам “без рода і племені”. У папулярнай песне 1970-х гадоў нават былі такія словы: *“Мой адрес не дом и не улица, мой адрес Советский Союз…”*




У студзені 1959 г. на прыёме ў гонар 40-годдзя БССР, дзе прысутнічаў тагачасны лідэр СССР Мікіта Хрушчоў, першы сакратар ЦК КПБ К. Мазураў выступіў з прамовай на беларускай мове. Хрушчоў абурыўся - чаму выступ быў не па-расейску і выказаўся: *“Чым хутчэй мы ўсе загаворым па-расейску, тым хутчэй пабудуем камунізм!”*

Камунізм пабудаваць не атрымалася, а потым разваліўся і Савецкі Саюз. Але намаганні прыхільнікаў камуністычнай ідэі не зніклі. На прасторах былой імперыі замест савецкага народа з’явілася нешта новае – *“русскоязычное население”.* Узровень нацыянальнай свядомасці гэтай часткі насельніцтва амаль нулявы. Яны так і не сталі ні рускімі, ні украінцамі, ні беларусамі. У лепшым выпадку гэта насельніцтва па-ранейшаму будуе “светлую будучыню”. Нацыянальная ідэнтычнасць, годнасць за сваю нацыю і адпаведна за Радзіму ў большасці гэтага на-





сельніцтва адсутнічаюць. У гэтым асяроддзі шчыра захапляюцца размовамі пра “вельмі добрае жыццё ў Маскве” ці недзе там, “за бугром”. У гэтым асяродку жыве моцная надзея на нейкі цуд і на тое, што “нехта” паклапоціцца про іх асабісты лёс.

Апошнім часам крамлёўскія кіраўнікі схамянуліся і пачалі ратаваць гэтых “нясчасных” людзей ад разнастайных “нацыяналістаў”. А на справе гэта працяг ранейшай імперскай палітыкі, якую Масква ажыццяўляе ў дачыненні да “нерусских” народаў ужо некалькі стагоддзяў. Толькі у апошнія дваццаць гадоў з гэтай нагоды “гарачыя кропкі” узнікалі ў Прыбалтыцы, Малдове, Грузіі, а зараз успыхнулі ва Украіне.

Як некалі ў Расійскай імперыі выкарыстоўваўся метад знішчэння беларусаў і украінцаў па рэлігійнаму прынцыпу (праваслаўны – рускі, каталік – паляк), то зараз маскоўскія “мечтатели” выкарыстоўваюць трохі іншы падыход: “русскоязычный” – гэта патрыёт, а калі людзі размаўляюць на беларускай або украінскай мовах – значыць, гэта нацыяналісты, апазіцыянеры, а ў апошні час і “бандэраўцы”.

Але намаганні маскоўскіх стратэгаў спрацоўваюць усё слабей. Мой сябра-журналіст, амаль кожны год адпачывае на Захадзе Украіны. На маё пытанне чаму менавіта там, адказаў, што гэта ў тым ліку і таму, што там не чуваць брыдкаслоўя.

Ну а што Беларусь? Беларусы былі найбольш русіфіцыраваныя падчас “будаўніцтва светлай будучыні”, і зараз “русскоязычные” складаюць большасць насельніцтва Беларусі. Вось і даводзіцца іншы раз чуць ад асобных нібыта беларусаў: *“Нах…й (навошта) мне гэты беларускі язык! Я што, паеду ў Маскву і буду там гэкаць?”*

Аднак, час імкліва ідзе. Працэс нацыянальнага абуджэння, які пачаўся ў беларусаў ў другой палове XIX стагоддзя, вельмі паступова, але няспынна рухаецца наперад - і спыніць яго ужо немагчыма. Вось толькі адзін прыклад апошняга часу: усё больш студэнтаў абараняюць свае дыпломы на беларускай мове. Газета “Наша Ніва” (№24, 25 чэрвеня г.г.) піша пра чарговы такі выпадак.: *“Праект станцыі Кавальская Слабада Мінскага метрапалітэна” пяцікурсніка Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта Якуба Трафімовіча (факультэт транспартных камунікацый) абаронены па-беларуску і будзе рэалізоўвацца на практыцы. На пытанне карэспандэнта як выкладчыкі прынялі беларускамоўны праект, Якуб адказаў: “Напачатку былі пытанні. Маўляў, ніколі такога не было на спецыяльнасці (але ва ўніверсітэце гэта не першы выпадак). У выніку ўсё прайшло выдатна. Пытанні стараліся задаваць па-беларуску. За дыплом я атрымаў 9 балаў”. Раней беларускамоўныя абароны таксама адбыліся ў Эканамічным універсітэце і Гомельскім тэхнічным універсітэце”.*

І, нарэшце, галоўнае. Аднойчы ў прыватнай размове са мной вядомы беларускі літаратар распавядаў, што свае інтэрв’ю, або іншыя афіцыйныя выступы ён заўсёды ладзіць выключна на беларускай мове. І гэта не толькі таму, што ён беларускамоўны аўтар. А таксама і таму, што, калі гучыць беларуская мова, то ў ёй ніколі не праслізне брыдкае слоўца. Перафразуючы расійскага паэта Уладзіміра Маякоўскага, які напісаў *“Я русский бы выучил только за то, что им разговаривал Ленин”*, можна сказаць: *“Я мову бацькоў вывучаю таму, што ў ёй няма брыдкаслоўя”.*

Як сцвярждаюць гісторыкі, брыдкаслоўе прыйшло на старажытную Русь падчас татара-мангольскага нашэсця. Таму, каб быць па-сапраўднаму вольным еўрапейскім народам, беларусам на шляху свайго адраджэння трэба вызваляцца і ад гэтай татара-мангольскай спадчыны.

***Аляксандр ГРУДЗІНА,***
*краязнаўца.*

У якасці дадатка глядзі замалёўку “Напрыканцы” на с.8.

# "Наш Магілёў" да Магілёва не даехаў

***Рэдактара маланакладнай газеты “Наш Магілёў” Ігара Барысава 23 ліпеня выклікалі ў раённы аддзел міліцыі Магілёўскага раёна, дзе на яго быў складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні.***


НАШ МАГІЛЁЎ
http://gazetanm.eu
№72
Незалежнае грамадска-палітычнае выданне горада. 15 чэрвеня 2014 г.
Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда
ГРАМАДСТВА
Пан Тадэвуш
АБ ТЫМ ЯК ДУРНОТА МОЖА СТАЦЬ РЭАЛЬНАСЦЮ
Магілёў горад унікальны. У першую чаргу тым, што рашэнні, якія закранаюць інтарэсы шырокай групы грамадзян, не абмяркоўваюцца.
Станіслаў Дубовік
МОСТ ПО ПРОСПЕКТУ ШМИДТА В МОГИЛЕВЕ ОТКРОЮТ 21 ИЮНЯ
Об этом журналистам заявил председатель Могилевского горисполкома Владимир Цумарев во время посещения строительного объекта.

Сябра ГА “БАЖ” абвінавачваюць у парушэнні артыкула 17 Закона аб СМІ, а таксама ў парушэнні артыкула 22.9 ч.2 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Супрацоўнікі Магілёўскага РАУС лічаць, што 16 ліпеня Ігар Барысаў на сваім уласным аўтамабілі незаконна здзяйсняў дастаўку “улётак” “Сацыял-дэмакрат” і “Наш Магілёў” у агульнай колькасці 11 800 асобнікаў і абвінавачваюць яго ў незаконным іх распаўсюдзе.

Сам незалежны журналіст вельмі здзіўлены тым, што супрацоўнікі міліцыі Магілёўскага раёна чамусьці палічылі маланакладную газету і інфармацыйны бюлютэнь менавіта “улёткамі”. Таксама І. Барысаў сцвярджае, што не распаўсюджваў друкаваную прадукцыю, а проста яе перавозіў.

*(Заканчэнне на с.8)*

# "Наш Магілёў"

( Заканчэнне. Пачатак на с.7 )

Па словах І.Барысава, супрацоўнік міліцыі, які складаў пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні, паведаміў яму, што адразу ж накіруе яго ў суд.

Нагадаем, што ноччу 16 ліпеня аўтамабіль Ігара Барысава быў спынены супрацоўнікамі ДАІ каля вёскі Сумарокава Магілёўскага раёна. Разам з Ігарам Барысавым у аўтамабілі знаходзіўся яшчэ адзін сябар ГА "БАЖ", вядомы беларускі палітык Рыгор Кастусёў.

Супрацоўнікі ДАІ паведамілі журналісту, што на яго аўтамабіль прыйшла арыенціроўка, нібы на ім здзейснена хуліганства ў Бялынічах. Пасля праверкі дакументаў і агляду аўтамабіля машына была накіравана ў РАУС Магілёўскага раёна для далейшага разбіральніцтва. Там супрацоўнікамі міліцыі быў складзены пратакол апытання Ігара Барысава і пратакол агляду аўтамабіля. Знаходзячаяся ў аўтамабілі друкаваная прадукцыя была канфіскаваная. Усяго супрацоўнікі міліцыі забралі 11 800 асобнікаў газеты "Наш Магілёў" і бюлетэня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) "Сацыял-дэмакрат".

***Газета "Наш Магілёў" была заснаваная ў канцы 2006 года. За часы свайго існавання было выдадзена 74 нумары выдання, на рэгулярнай аснове працуе сайт gazetanm.eu.***

***Канфіскаваны нумар газеты быў прысвечаны інфармацыйнай кампаніі "Захаваем стары Магілёў", якую зараз праводзіць гэтае незалежнае выданне.***

**Барыс ВЫРВІЧ.**




# Будут свои "Джон Диры"?

***Александр Лукашенко потребовал к следующей уборочной кампании довести качество производимых в Беларуси комбайнов до уровня лучших зарубежных аналогов.***




Фото personal.klavdievna.ru

оответствующую задачу А.Лукашенко поставил во время рабочей поездки в Минскую область. *"Комбайны к следующей уборке должны быть не хуже немецких и американских"*, - сказал он.

А.Лукашенко акцентировал внимание на качестве производимой техники: *"Передайте каждому мастеру и рабочему - за качество будем жесточайшим образом спрашивать. Конкуренция каждый год усиливается"*.

Еще один важный аспект - необходимость повышения локализации в производстве техники. *"Возить сюда импортные детали, собирать комбайны и хвастаться потом - нам этого не надо. Мы сами должны это производить, и это ваша задача"*, - подчеркнул А.Лукашенко. *(Паводле БелТА)*

# Напрыканцы

**Arina Liseckaya**
4 ч. назад

Учитывая "понаехавших маскалёў" в наш чистый и уютный Минск, их хамство на дороге и абсолютное неумение парковаться, неуважение к костелу ( во время имши ходить и всех фоткать, в голос разговаривая), возмущение, что не повесили везде российские флаги, тупой смех над надписями на беларускай мове, вспомнилась бородатая история:
"Весна. Деревня. Посевная. Рядом с повозкой местного деда останавливается машина:
-Не подскажете как проехать до N?
-Канешне, едзьце проста, там звярніце на лева, яшчэ 3 км проста і ў гору.
- А чо, по русски нельзя ответить?
- По русски? Запросто. Иди ты на *уй!"

**Магілёўскі ВЫБАР**

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адрас рэдакцыі: 213155, Магілёўская вобласць, Магілёўскі раён, в.Брылі, вул.Юбілейная, 6-7. Тэл. 8-0222-710451
E-mail: mikolabryl@gmail.com. Выдавец Яцкова Ала Міхайлаўна. Наклад 299 асобнікаў. Фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 20.07.2014 г. у 10.00.